# Святы

Каляда, Каляда, на зямлі — Святы Вечар,
нарадзіўся у яслях Збавіцель і Бог.
І пасталі бярозаў танклявыя свечкі
паабапал заснежаных, белых дарог.

Каляда, Каляда... Нават зорам трывожна.
Па заблытаных сцежках крутога жыцця
да сваіх ў гэты вечар спяшаецца кожны,
дзе ў сям'і за сталом нас чакае куцця.

Сена пах, яліны, стаяць розныя стравы,
прытаміўшыся, маці шчасліва маўчыць.
Садзяцца сыны на шырокія лавы,
што сышліся дамоў, каб душой адпачыць.



# вечар

Сёння сэрцам з усімі куццю раздзяляем,
хто за стол наш не змог на вячэру прыйсці,
ўсіх далёкіх і родных сваіх ўспамінаем
і дабра ўсім і шчасця жадаем ў жыцці.

Можа, хто занямог, можа, хто пахіснуўся,
загубіўшы сумленне ў нялёгкім жыцці,
прытаміўся ў шуканні свае Беларусі —
памажэце й такім на вячэру прыйсці...

*Ларыса Геніюш*

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 4 (74)/2016 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2;* **e-mail:** *m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 2 000 экз. Заказ № 1648.
Падпісана да друку 19.12.2016 г. Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди»
Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013. Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.



# Навошта маліцца?

*Госць часопіса — айцец кармэліт босы Сяргей Трысцень з парафіі Божага Цела ў Мінску.*

*— Ойча Сяргей, у касцёле мы чуем пра тое, што хрысціянін павінен шмат маліцца, але ж Пан Бог ведае пра нас усё-усё. Значыць, ведае Ён таксама і нашы беды, праблемы, радасці. Дык ці трэба Яму ўвесь час нагадваць пра іх?*

— Так, Пан Бог ведае жыццё і сэрца кожнага чалавека. Ён бачыць кожны наш крок і ўчынак, чуе кожнае наша слова і ведае ўсе нашы патрэбы. Але Пан Бог таксама хоча, каб чалавек не забыўся пра Яго, таму і дае такую цудоўную магчымасць сустрэчы з Ім у малітве. «Малітва — гэта сяброўская размова з Тым, хто нас вельмі моцна любіць», — казала святая Тэрэза Авільская. Праз малітву мы становімся бліжэй да Бога. Калі Езус — наш Сябра, то трэба з Ім размаўляць. Што ж гэта за сябры, калі яны не размаўляюць паміж сабой?



*— І праўда. Значыць, маліцца ўсё ж трэба. А можа Вы ведаеце нейкія асаблівыя малітвы, якія, напрыклад, дапамагалі б нам добра вучыцца?*

— Ёсць вельмі шмат прыгожых малітваў, але самая лепшая малітва тая, якая выплывае са шчырага сэрца. Таму заўсёды памятай падчас малітвы, што Пан Бог знаходзіцца побач, Ён бачыць цябе і слухае. І кажы Яму ўсё, што ляжыць на сэрцы.

*— А што важней: дзякаваць Пану Богу, прасіць Яго аб нечым альбо, напрыклад, праслаўляць Яго?*

— Важна ўсё. Трэба кожны дзень дзякаваць Богу за Яго любоў да нас, за Яго дары, таленты, за бацькоў і родных, за дар веры. А калі аб нечым просім, то заўсёды трэба дадаваць: «Няхай будзе Твая воля, а не мая!» Пан Бог — не чараўнік, які нібыта павінен выканаць кожнае наша жаданне. Ён нас вельмі любіць і хоча, каб мы былі шчаслівыя. Але не ўсё, аб чым мы просім, для нас карыснае. Таму важна навучыцца прымаць волю Бога.

*— Людзі часта моляцца не толькі да Айца Нябеснага, да Езуса Хрыста, але і да Маці Божай, да святых, анёлаў... А Богу не крыўдна, калі мы не толькі да Яго звяртаемся?*

— Ёсць шмат святых, якія моцна любілі Бога. Думаю, Пан Бог радуецца, калі бачыць, што мы цікавімся жыццём гэтых святых. Маці Божая і святыя не засланяюць Божую хвалу, а дапамагаюць нам пазнаваць і любіць Яго. Узіраючыся ў жыццё святых, мы іх наследуем і вучымся праслаўляць Нябеснага Айца.

*— Можа, выдадзіце таямніцу пра тое, як і ці шмат моляцца айцы кармэліты, бо Вы ж належыце да іх ордэну.*

— Ордэн кармэлітаў босых — гэта асаблівы ордэн, мэтаю якога ёсць трыванне на малітве. Малітва — гэта не толькі той час, які чалавек прабывае ў касцёле альбо дома на каленях. Кармэліты вучацца, каб малітваю стала ўсё іх жыццё. Усе справы, абавязкі, сустрэчы, якія мы выконваем з любові да Бога, могуць стаць нашай прыгожай малітвай.

*— Скажыце, а Вы самі шмат у дзяцінстве маліліся? Не ленаваліся?*

— Першым малітвам мяне навучыла бабуля. Разам з ёю я вечарамі маліўся на ружанцы. Калі ж





адчыніўся ў нашай вёсцы касцёл, я з радасцю кожны дзень бег на святую Імшу, дапамагаў святару. Вельмі любіў розныя евангельскія чытанні і спяваць псальмы падчас літургіі. У нашай парафіі быў заснаваны дзіцячы Легіён Марыі. Раз на тыдзень мы збіраліся на святы Ружанец, а потым ішлі на розныя заданні: дапамагалі старэйшым, прыбіралі тэрыторыю вакол касцёла, распаўсюджвалі рэлігійныя часопісы і абразкі.

*— Я, прызнацца, можа б таксама маліўся больш, але ж увечары так спаць хочацца...*

— І мне часам стома перашкаджае, але калі я ўзгадваю, што малітва — гэта сустрэча з Езусам, маім Сябрам, то адразу з'яўляюцца сілы! Ды й не адкладвай ты, Яська, малітву на позні вечар. Знаходзь для яе час удзень.

*— Пастараюся. Дзякуй за гутарку! Са святам Божага Нараджэння Вас і ўсіх дзяцей з вашай парафіі!*

— Шчыра дзякую! Я таксама віншую чытачоў часопіса з цудоўным святам Божага Нараджэння. Жадаю, каб Езус стаў для ўсіх вас сапраўдным Сябрам, бо толькі з Ім мы будзем шчаслівыя.

*Гутарыў Яська Запытальнік.*

# НЕ БОЙЦЕСЯ!

**Як распачалося аб'яўленне Маці Божай у Фаціме?**

**Да таго, як Яна з'явілася траім пастушкам — Люцыі, Францішку і Гіацынце — іх наведаў анёл.**

**Люцыя пазней так апісвала гэтую сустрэчу:**

**Наблізіўшыся да нас, ён вымавіў:** *«Не бойцеся. Я — Анёл Спакою. Маліцеся разам са мною»*. **Ён укленчыў і схіліў галаву да самай зямлі.**

**Нейкая звышнатуральная сіла прымусіла нас таксама ўкленчыць і паўтараць яго словы: «Божа мой, веру і кланяюся Табе,спадзяюся на Цябе і люблю Цябе. Прашу прабачыць тым, хто не верыць, не кланяецца Табе, не мае надзеі і не любіць Цябе». Пасля таго, як ён паўтарыў гэтыя словы тры разы, ён падняўся і вымавіў:** *«Гэтак маліцеся. Сэрцы Езуса і Маці Божай чулыя да голасу вашых просьбаў»*.

**Памятайма, сябры, пра напамін Анёла Спакою!**

*Паводле кнігі Ічыліо Фелічы «Фаціма».*



# Ці пачулі вы просьбу?



Напэўна ж, сябры, многія з вас удзельнічаюць у набажэнствах, якія адбываюцца ў вашых парафіях у гонар Маці Божай Фацімскай. Фігура Маці Божай з Фацімы пілігрымуе цяпер па Беларусі: ад парафіі — да парафіі. Звычайна мы самі ідзем альбо едзем да Маці Божай: у Будслаў, Гудагай, Браслаў альбо ў літоўскую Вільню ці ў польскую Чанстахову. Вернікі любяць наведваць санктуарыі Маці Божай. А вось цяпер Яна сама наведвае нас, сваіх дзяцей.

Мы радасна сустракаем Яе: з кветкамі, песнямі, малітвамі.

Дарэчы, сябры, вы памятаеце нашу просьбу? У мінулым часопісе мы прасілі вас штодня маліцца тры разы *Вітай, Марыя...* у інтэнцыі навяртання свету. Чаму гэта так важна? Бо аб малітве прасіла нас сама Маці Божая.

Наш свет увесь час скаланаюць войны, канфлікты, тэрарызм. Як жа нам ратаваць яго? Тры разы — *Вітай, Марыя...* Памятайма пра іх, сябры!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# Падрыхтоўка да малітвы

*Кожны, хто ідзе да кагосьці на важную размову, напачатку абавязкова падумае, як ён будзе размаўляць, што скажа, каб зрабіць на свайго суразмоўцу добрае ўражанне. Карацей, вынік нашых размоваў у многім залежыць ад нас саміх.*

*А ці заўсёды мы думаем пра тое, ці з належнай пашанай мы молімся? Ці не занадта спяшаемся, каб як найхутчэй адбыць тую сустрэчу і бегчы па сваіх справах? Але ж вынік усіх нашых справаў таксама залежыць ад нашых адносінаў з Ім. Таму прапануем вам задумацца над тым, як мы размаўляем з Панам Богам.*

1 Да таго, як распачаць малітву, пастараемся абудзіць у сабе жаданне гэтай размовы з Богам. Малітва – гэта дар. Будзем прасіць яго ў Пана Бога.

2 Потым знойдзем адпаведнае спакойнае месца, дзе нічога не будзе адцягваць нашай увагі.

3 Калі знойдзем гэтае месца, трэба нам і сябе суцішыць, настроіць на малітоўны лад. На малітве можна стаяць на каленях, сядзець альбо і хадзіць, але ніколі не трэба пры гэтым сачыць за тым, што адбываецца навокал.



4 Пакінем усе нашыя справы і думкі за дзвярыма нашага сэрца. Праўда, калі мы, напрыклад, пасварыліся з кім-небудзь, то найлепш будзе памірыцца з тым чалавекам, а ўжо потым ісці на малітву. Калі ж памірыцца вельмі цяжка, то прасі ў Бога гэтай ласкі.

5 Уяві сабе, што ў святыню твайго сэрца на гэтую размову прыйдзе Езус, Маці Божая, Дух Святы, Айцец Нябесны... Таму сэрца павінна быць гатовым прыняць такіх высокіх Гасцей.

6 Бог моцна любіць нас. Напрыклад, у кнізе прарока Осіі Ён кажа, што носіць сваіх дзяцей на руках, корміць іх і лашчыць. Паспрабуй адчуць сябе на Яго моцных бацькоўскіх далонях. Даверся Яму.

7 І абавязкова на завяршэнне малітвы не забудзь падзякаваць Пану Богу за тое, што Ён слухаў цябе. Можна зрабіць гэта кароткай малітвай *«Хвала...»* Толькі зрабі гэта з вялікай пашанай, па-сапраўднаму аддаючы хвалу Таму, да Каго ты звяртаўся.

# 500 гадоў беларускаму

Вы, мабыць, ужо ведаеце, сябры, што ў будучым годзе ў Беларусі будзе шырока адзначацца вельмі значны юбілей: 500-годдзе з часу выхаду нашай першай друкаванай кнігі. Гэтую кнігу падрыхтаваў і надрукаваў наш слынны зямляк Францішак Скарына. І гэтая кніга — «Псалтыр». Усе кнігі, аказваецца, узялі пачатак на нашай зямлі з Бібліі!

А што вы, сябры, ведаеце пра Францішка Скарыну? Дзе ён нарадзіўся? Дзе вучыўся? Дзе друкаваў свае кнігі? Мабыць жа, некаторыя з вас бачылі помнікі яму. Дзе вы іх бачылі?







# друкаванаму слову

Прапануем вам расказаць пра тое, што вы ведаеце пра нашага першадрукара, у часопісе. І таму...

## УВАГА: КОНКУРС!

### Ён будзе называцца «Наш першадрукар»

На конкурс прымаюцца любыя творы: малюнкі, вершы, аповеды, рэпартажы пра цікавыя падзеі, прысвечаныя Скарыну. Будзем рады атрымаць ад вас і прыгожыя здымкі. Словам, тварыце! Заахвочваем вас да гэтага!

Вынікі конкурсу будуць падведзеныя праз год.

Пераможцы, якія зоймуць *першае, два другіх і тры трэціх месцы*, атрымаюць узнагароды. Апроч таго, усе ўдзельнікі атрымаюць *памятныя дыпломы*.

Дык за працу, сябры!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# Адгадай














**Калі ты правільна падпішаш гэтыя карцінкі, то пачатковыя літары складуць назву роднага горада нашага першадрукара.**

# Спектакль воінаў

Даўным-даўно, ажно ў XVII стагоддзі, жыў у Францыі святар, які моцна любіў Найсвяцейшую Панну Марыю. Яго звалі Людвік Марыя Грыньён дэ Манфор. Ён марыў і маліўся, каб усе людзі на зямлі таксама зразумелі, як моцна Беззаганная Панна любіць кожнага з нас. Аднойчы ён сказаў: «Калі сабраць на зямлі любоў усіх маці да сваіх дзяцей, скласці гэтую любоў у адно мацярынскае сэрца і накіраваць да аднаго дзіцяці, то гэтую любоў ніколі нельга будзе параўнаць з той любоўю, якой Панна Марыя любіць кожнага з нас».




Аднойчы ён нават прадказаў, што прыйдзе час і ў Касцёле з’явіцца «легіён мужных воінаў Езуса Хрыста і Марыі, якія будуць змагацца з грахамі гэтага свету...».

За сваю моцную любоў да Пана Бога і Панны Марыі Людвік Марыя Грыньён дэ Манфор быў далучаны Касцёлам да ліку святых.

Ішлі гады, і ў Касцёле сапраўды з’явілася супольнасць, якая стала

называцца Легіён Марыі.

На Беларусі таксама ёсць гэтая супольнасць, яе прадстаўнікі служаць у многіх парафіях і нясуць людзям вестку пра вялікую любоў Пана Бога і Найсвяцейшай Панны Марыі да сваіх дзяцей. А ў касцёле святых Сымона і Алены ў Мінску ёсць яшчэ і дзіцячы Легіён Марыі. Кожную нядзелю мы збіраемся на ружанцовую малітву і выкананне розных заданняў, якія нам даюць дарослыя легіянеры. Найчасцей нам даручаюць дарыць людзям, найперш няверуючым, цудоўны медалік Найсвяцейшай Панны Марыі.

Неяк сёстры з манаскай супольнасці святога Вінцэнта дэ Поля прапанавалі нам паставіць спектакль пра гісторыю з'яўлення цудоўнага медаліка, бо святая Кацярына Лябурэ, якой 27 лістапада 1830 года ў Парыжы аб'явілася Маці Божая і наказала, каб з'явіўся гэты медалік, належала менавіта да гэтай манаскай супольнасці. Маці Божая загадала тады распаўсюджваць гэты медалік і паабяцала тым, хто будзе яго насіць і штодня гаварыць малітву, змешчаную на ім: «О, Марыя, без граху першароднага зачатая, маліся за нас, хто ў Цябе паратунку шукае», спасылаць шматлікія Божыя ласкі.

Юныя легіянеры на працягу некалькіх месяцаў старанна рыхтавалі гэтую пастаноўку. І вось 27 лістапада ў тэатральнай зале нашага касцёла адбылася прэм'ера. Не будзем хваліцца самі, бо найлепш ацанілі наш спектакль гледачы ў зале. А пасля мы раздалі цудоўныя медалікі ўсім, хто глядзеў наш спектакль. 290 медалікаў знайшлі сваіх новых гаспадароў!

Сябры, а вы, магчыма, таксама жадаеце стаць сапраўднымі маленькімі легіянерамі (воінамі) Езуса і Марыі?

*Ілля Міранкоў,*
*Мімона Ідрыс,*
*парафія святых Сымона*
*і Алены ў Мінску.*









# Можам сведчыць!

Як на зямлі распаўсюджвалася вера ў Езуса Хрыста? Тыя, хто сустрэўся з Ім, расказвалі іншым пра тое, што Ён казаў, як аздараўляў людзей, вызваляў іх ад уплыву злых сілаў. Яны казалі іншым, як знайсці Бога праз Езуса Хрыста. Так нараджаўся наш Касцёл.

Сёння, як і дзве тысячы гадоў таму, людзі вакол нас часта зусім мала, а то і нічога не ведаюць пра Пана Езуса і Яго любоў. Таму Бог хоча, каб мы радасна і адважна расказвалі пра Яго іншым людзям. Але здараецца, што і нашы сябры ў парафіі часта сумныя, бо не навучыліся давяраць Езусу. Можа, нам таксама не хапае сумесных размоваў пра Бога, пра тое, якія цяжкасці нас сустракаюць, сумненні. Напрыклад, ці заўсёды нам удаецца маліцца і не сумаваць пры гэтым? Ці верым мы ў тое, што Езус заўсёды чуе нас?




Нядаўна на занятках па рэлігіі дзеці з парафіі святых Сымона і Алены ў Мінску дзяліліся паміж сабой тым, як, за каго і за што яны моляцца. Аказалася, што не ўсе, напрыклад, знаходзяць для гэтага час штодня. Што ж, сілы змагацца з'яўляюцца тады, калі ведаеш, што змагаешся ты не адзін!

— Я малюся за свайго сябра Ігара, таму што яго тата развёўся з яго мамаю, — сказаў Алёша.

І гэта, заўважым, найлепшая дапамога сябру, які перажывае сур'ёзную праблему.

Як і Алёша, Наста таксама ў малітве даручае Богу блізкага чалавека:

— Мая мама цяпер хварэе, таму я малюся за яе кожны вечар.

— Малюся за бацькоў, каб усё ў іх было добра, — дзеліцца Даша. Яна ведае, што для шчасця і супакою ў сям'і трэба маліцца за Божае для яе благаслаўленне.

Іван далучаецца да размовы:

— Ёсць дзеці, якія не маюць бацькоў. Вось я за іх і малюся.

Гэта вельмі важна — маліцца за тых, каму адзінока, балюча, крыўдна. Да таго ж, калі мы думаем пра іншых, то і самі вучымся цаніць тое, што маем. З усяго гэтага і нараджаецца наша ўдзячнасць Богу.

— Малітва — гэта размова з Богам, — дадае Іван.

Так, у гэтай размове мы можам казаць Яму ўсё, чым жывем, што адчуваем, што нас турбуе. Бо Ён не асудзіць. Ён любіць нас і разумее.

— Толькі хочацца, каб мая малітва была больш шчыраю, — прызнаецца Наста.

Дзеці гаварылі таксама пра тое, што з радасцю маліліся б дома разам з бацькамі, але з розных прычынаў у многіх няма такой малітвы. Можа, тады трэба было б расказваць сваім самым родным людзям пра Нябеснага Айца, які нас так моцна любіць? Варта паспрабаваць наследаваць адвагу першых хрысціянаў і ў шчырай размове падзяліцца з іншымі сваёй верай у Езуса Хрыста. Магчыма, Бог і абудзіць сэрцы людзей вакол цябе. Альбо, можа, ты і сам не бачыш дзеяння Бога ў тваім жыцці? Паспрабуй пагутарыць пра гэта з сябрамі, з братамі і сёстрамі ў веры, з бацькамі альбо старэйшымі вернікамі з парафіі. Ці не падрыхтаваў Бог і для цябе словы суцяшэння з іх вуснаў?

*Вольга Качалка*



# ІМ ПАТРЭБНА НАША

Хто галоўны ў парафіі? Нехта скажа, што мы ўсе важныя ў вачах Пана Бога. Безумоўна! Але без гэтага чалавека любая парафія проста не можа існаваць. Вы ўжо здагадаліся, пра каго ідзе гаворка? Ну вядома, пра святара!

Без яго не будзе Імшы ў касцёле. Калі б ён не спавядаў, мы ўсе хадзілі б брудныя, нібы тыя камінары, якія пасля прачысткі комінаў самі застаюцца ў плямах сажы.

Калі б не было святароў, не было б каму гаварыць казанні, альбо ўшчуваць нас за тое, што мы не ўмеем слухаць. А хто спяваў бы на золку Рараты ды яшчэ й на лаціне? А на Вялікдзень не было б каму абвясціць, што Хрыстус заўсёды ёсць той самы: учора, сёння і навекі!

Без святароў было б усё не так, як трэба ў свеце. Ды без іх многія людзі проста не даведаліся б нічога пра Бэтлеем і Божае Нараджэнне, пра Езуса і Яго Маці Марыю, пра добрага Юзафа, яго залатыя рукі, пра ціхае аслянятка ў стаенцы ды пра злоснага Ірада. Дзіўнае і незразумелае, няправільнае было б жыццё без святароў.



А ці бачыў ты калі, дружа, як святар... плача?

Не здзіўляйся. Такое таксама часам здараецца. Але ягонага смутку мы найчасцей не бачым. Проста ён не бяжыць адразу скардзіцца камусьці, не жаліцца, не енчыць на ўвесь свет. Ён усё расказвае Езусу, Які яго аднойчы паклікаў на гэтую няпростую і вельмі адказную службу.

«Хіба ягоная служба самая адказная?» — магчыма, запытае хтосьці з вас. Так, яна самая адказная, бо кожны з нас адказвае перад Панам Богам за сябе. Ну, яшчэ часта і за сваіх бліжніх, якія жывуць разам з намі. А святар адказны перад Панам Богам за кожнага з нас. За кожнага, каго Пан Бог даручыў яму. І калі мы, даручаныя яму, робім глупства, хіба



# ПАДТРЫМКА

гэта не можа стаць прычынай для святарскага смутку?

Таму, сябры, пастараемся як найменш прыносіць яму прыкрасцяў.

А чым мы можам дапамагаць нашым святарам?

Мабыць, тым, калі на іх пытанні не будзем адмоўчвацца, а будзем старацца як найлепш адказваць. Адгукацца на просьбы, калі святар папросіць штосьці дапамагчы пры касцёле. А можа, калі-небудзь ты адважышся і скажаш яму «дзякуй» за цікавае казанне, цікавы ўрок па рэлігіі альбо за тое, што ён у чарговы раз не забыўся запрасіць святога Мікалая ў тваю парафію.

...А пасля Пастэркі, калі ўсе ўжо выйдуць з касцёла, ваш святар яшчэ застанецца ў ім на нейкі час. Ён будзе стомлены, ціхі, задуменны... Можа тады яму вельмі дарэчы будзе тваё віншаванне са святам? Не бойся яго сказаць. Працягні да яго руку з аплаткам і пажадай, каб Езус заўсёды быў у яганым сэрцы. Тады ў твайго святара адразу пройдзе стома, і ён не будзе сумаваць нават тады, калі дзядзька Васіль засне раптам на казанні, а цётка Анюта пераблытае і запатрабуе, каб святар пасвянціў на Божае Нараджэнне велікоднага баранка, а ты невядома з якога перапуду забудзешся зняць шапку ў касцёле ды так і будзеш стаяць на Імшы, пакуль хтосьці ззаду не скіне яе з тваёй галавы.

Шмат прыемнага можна зрабіць для твайго святара.

Але самае карыснае ты зробіш для яго тады, калі будзеш маліцца за яго. Хтосьці гэта робіць кожны дзень, хтосьці час ад часу. Святар жа моліцца за нас з дня ў дзень, часта і ўвечары, і раніцай, і ўначы... А мы?..

Трэба нам вучыцца дзякаваць яму тым жа.

Ці атрымліваецца гэта ў цябе?

*І. Студзеньская*



# Гульні Загадкі






## ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

Адна наша чытачка неяк падзівілася: «І дзе вы столькі бярэце гэтых загадак з Бібліі?» І сапраўды: дзе мы іх бярэм?

А яны — на кожнай старонцы гэтай самай загадкавай кнігі ў свеце, бо гэта толькі на першы погляд нам можа здавацца, што мы ўсё ведаем. А калі ўсур'ёз пачнем чытаць Біблію, то загадкі будуць з'яўляцца для нас на кожнай старонцы, у кожным абзацы, у кожным вершы... Проста чытаць трэба вучыцца ўважліва. Тады і разгадваць загадкі будзе лягчэй!

Дык уключаем на ўсю моц нашу ўвагу!..

- Хто навучыў нас малітве *«Ойча наш...»*?
- «Прасіце, і...................; шукайце, і................; стукайце і ............» (Мц, 7).
- Ці ведаеш ты якія-небудзь словы анёлаў, што сталі малітвай? Прывядзі прыклад.
- Словы якіх герояў з Евангелля змешчаныя ў малітве *«Вітай, Марыя...»*?
- Праз каго Езус даў нам Вяночак да Божай Міласэрнасці?
- Прывядзі з Евангелля прыклад таго, як не трэба маліцца (Лк 18).

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

## Смяшынкі-Весялінкі

### Навучыў

– Мама, учора Юра прыйшоў у школу брудны. Настаўніца насварылася на яго і загадала ісці дадому!

– І што, дапамагло?

– Так, сёння ўвесь клас прыйшоў брудны.

Адказы на **Загадкі, змешчаныя ў № 3 за 2016 г.**

**«Загадкі з Бібліі»:** Мацвей, Марк, Лука, Ян; апостал Мацвей, апостал Павел; дзень нараджэння Яна Хрысціцеля 24 чэрвеня.

**Галаваломка:** «Будзьце святымі, бо Я святы Пан, ваш Бог».

**Святыя і благаслаўлёныя Беларусі:** святы Казімір, каралевіч; святы Рафал Каліноўскі, удзельнік паўстання 1863 г.; благаслаўлёны Юры Матулевіч, біскуп Віленскі; благаслаўлёныя сёстры назарэтанкі з Наваградка; благаслаўлёная Мар'яна Бярнацкая, мучаніца.



**На сувязі з небам:** святыя Язафат Кунцэвіч, Андрэй Баболя, Максімільян Кольбэ, благаслаўлёныя Антоні Ляшчэвіч, Юры Кашыра і Мечыслаў Багаткевіч служылі на Беларусі; святы Максімільян Кольбэ заснаваў часопіс на польскай мове «Маленькі рыцар Беззаганнай».

На гэты раз правільна адказала на ўсе нашы загадкі адна **Маргарыта Ясэпкіна**. Яна і атрымае ад нас падарунак.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# Крыжаванкі





## Дапамажы ягнятку

Дапамажы ягнятку знайсці правільную дарогу да Святой Сям'і.







## *Рэбус*

Калі ты правільна разгадаеш гэты рэбус, то прачытаеш назву вельмі важнай для кожнага верніка кнігі.
























*Рубрыку вядзе*
*Марыя Ганчаронак*

***Вы, сябры, безумоўна, ведаеце, што кожная каталіцкая сям’я ў перыяд Адвэнту рыхтуецца да Божага Нараджэння. А як вы рыхтуецеся да гэтага свята?***

*Нашы рукі да працы гатовы*

# Анёлы

…Паблізу Бэтлеема ў тую ноч пастухі вартавалі свае статкі, каб які звер не ўбіўся і не нарабіў шкоды. «І з’явіўся ім анёл Пана, і хвала Пана асвяціла іх, і вялікі страх ахапіў іх. І сказаў ім анёл: «Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народу, бо нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, якім ёсць Хрыстус Пан…». Раптам з анёлам з’явілася вялікае войска нябеснае, якое праслаўляла Бога і ўсклікала: «Хвала на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі» (Лк 2, 9–14).

Сёння я прапаную вам зрабіць сваімі рукамі фігуркі розных анёлкаў.

**Для гэтага нам спатрэбяцца:**

**аловак;**
**белыя аркушы паперы;**
**клей;**
**лінейка;**
**нажніцы;**
**трафарэт анёла;**
**і абавязкова добры настрой.**








Анёлы — гэта Божыя стварэнні. Пастушкам пашчасціла іх убачыць. Мы ж іх ніколі не бачылі, але затое маем фантазію. Дык будзем фантазіраваць!

Для таго, каб зрабіць першага анёлка, нам трэба скласці «гармонікам» два квадраты (ад памеру вашага квадрата будзе залежыць памер анёла). Потым трэба падрыхтаваць дзве тоненькія палоскі: шырыня прыкладна 5 мм, а даўжыня 10 см. Адну з іх трэба скруціць і кончык замацаваць клеем, каб не раскруцілася, а з іншай зрабіць «кроплю», у цэнтр якой трэба ўклеіць нашую першую палоску — гэта будзе галава будучага анёла. Потым нашыя «гармонікі» трэба сагнуць: 1/3 частку аднаго трэба нахіліць управа, а другога — улева. Паміж імі трэба ўставіць «галаву» і ўсе тры часткі склеіць паміж сабою. Варта добра прыціснуць і пачакаць хвілінку.

Каб зрабіць яшчэ аднаго анёлка, нам спатрэбіцца трафарэт, які вы бачыце. Яго вы можаце лёгка намаляваць самі. Ад памеру трафарэта залежыць памер анёлка. Потым трэба выразаць па ўсіх лініях так, як паказана на малюнку, замацаваць крылы і выпрастаць ручкі.

Вось такія атрымаліся анёлкі!

Віншую вас, сябры, са святам Божага Нараджэння!



2021

## Прыпавесці

# Залатая рыдлёўка

Неяк адзін аматар каштоўных кладаў прачытаў у старажытнай кнізе, дзе яму трэба шукаць каштоўны клад. Знайшоў ён тое месца і пачаў разграбаць зямлю. І тут ён убачыў, як з неба проста перад ім спусцілася залатая рыдлёўка. Чалавек вельмі ўзрадаваўся, схапіў рыдлёўку і пабег з ёю дахаты. Пра сваю мару адшукаць клад ён ужо больш не думаў.

Але аднойчы пачуў гэты чалавек таямнічы голас: «Гэтай рыдлёўкай табе трэба было выкапаць вельмі каштоўны клад. Ты ж прамяняў яго на бліскучую рыдлёўку. Таму забярэцца яна ў цябе!»

*Малітва – дарагая каштоўнасць.*
*Але самае каштоўнае – Бог,*
*да якога малітва*
*прыводзіць душу чалавека.*

Сімяон Афонскі,
манах.



# Высока сяджу

Гэты хлопчык любіць вышыню. Калі чытае кнігі, то можа нават на шафу залезці! А ў садзе – на яблыню, грушу, сліву... Адважны, словам, хлопчык!

Мацвей Аўгустын Жылевіч жыве ў Браславе. Так, у яго два імені. Яго назвалі, як вы, мабыць, здагадваецеся, у гонар евангеліста Мацвея і, напэўна ж, у гонар знакамітага біскупа. Мацвей Аўгустын вельмі любіць, калі дарослыя чытаюць яму цікавыя кнігі. Ягоныя любімыя кнігі — «Прыгоды Нязнайкі», «Жывы капялюш» і «Мішкава каша» Мікалая Носава. Хлопчык выдатна запамятаў усе прыгоды герояў. Ён часам інсцэніруе падзеі з кніг, а таксама любіць дадумваць, што магло б адбыцца яшчэ з яго героямі.



Да таго ж, як і кожны хлопчык, Мацвей Аўгустын любіць гуляць на прыродзе. У Браславе, самі разумееце, раздолле! Калі ж у сям'і з'явілася і сястрычка Міхалінка, то жыццё нібы зайграла новымі фарбамі. І гэта цудоўна!

*Людміла Бурлевіч*

